Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 36. Вільня, 26 лістапада 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |



## Ад Прэзыдыуму Выканаўчага Камітэту Бел. Радыкальнай Народ. Партыі.

Нас пытаюць, ці можа сябра культурных альбо грамадзкіх гаспадарчых устаноў, як напрыклад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, Т-ва „Прасьвета“ Т-ва Беларускай Школы, сельска-гаспадарскіх гурткоў, коопэратываў, і іншых, быць адначасна сябром Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі?

На пытаньне гэнае можа быць толькі адзін адказ: бязумоўна можа.

Працуючы ў культурных і гаспадарчых грамадзкіх установах, якія ў праграме сваёй ня маюць нічога палітычнага, людзі гэныя прычыніцца могуць вельмі для зьдзейсьненьня мэтаў Б. Р. Н. Партыі, якая ў сваёй праграме мае падняцьце культурнага і гаспадарчага жыцьця нашага сялянства.

Ведама, калі-б гэныя установы хацелі выкарыстаць сваіх сяброў, для якіх-небудзь палітычных мэтаў, сябры Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі павінны змагацца з гэным і дамагацца спыненьня палітыкі з працы гэных установаў.

Сябры палітычных партый, як напрыклад „Сялянскага Саюзу“, „Хрысьціянска - Дэмакратычнай Партыі“ і іншых, ня могуць быць сябрамі Бел. Рад. Нар. Партыі, покуль не заявяць публічна, на старонках нашае газэты, аб выхадзе з гэных палітычных партый.

## Аб аграрнай рэформе і патрэбах сельскай гаспадаркі.

*(Тэзы да краёвага зьезду 27 лістапада).*

Зямля павінна належаць тым, хто на ёй працуе, хто з яе вырас і адвеку паліваў яе сваім потам.

Памятаючы, што зямля зьяўляецца неацанімым дабром, бо корміць яна ня толькі селяніна, але ўвесь край — належыць зямельныя адносіны ў краі так упарадкаваць, каб земляробы маглі якнайбольш адтрымаць з гэтае зямлі карысьці і працаю сваёю палепшыць, як свой дабрабыт, так і дабрабыт усяго краю.

З даўных часоў, ад дзядоў і прадзедаў абрабляець зямлю сваёю мазольнаю рукою селянін-земляроб. Праз несправядлівасьці мінулых часоў, паняверааны ўсімі, мусіў працаваць гэты селянін для іншых.

І хоць сягоньня селянін і лічыцца вольным грамадзянінам краю, аднак, сьлед мінулае крыўды і няволі ляжыць на сялянскім жыцьці і не пазваляець яму моцна стаць на ногі.

Крыўда гэтая ня толькі ў тым, што селянін маець мала зямлі, але і ў тым, што ад даўных часоў зямля гэта не ўпарадкавана.

Шнуры-палоскі, з якіх у большасьці складаецца зямля нашых сялян, не даюць ім магчымасьці добра весьці сельскую гаспадарку. Малазямельнасьць яшчэ больш па-

гаршаець справу, бо шнуры пры падзеле гаспадарак паміж сынамі сталі такімі вузкімі, што добра апрацаваць іх проста немагчыма. Калі-ж дадаць да ўсяго гэтага, што шмат зямлі ёсьць мала ўжыванае, альбо зусім ня ўжыванае, як балоты, на якіх нічога не расьце, то стане зразумелым тое цяжкое палажэньне, у якім знаходзіцца наш селянін-земляроб. Дзеля гэтага і бачым усюды беднасьць і цемру, а няраз і голад.

Такі стан рэчаў мусіць быць самым рашучым спосабам зьменены *і зрабіць гэта павінна зямельная рэформа.*

Казкамі аб зямельнай рэформе вадзілі нас за нос розныя варшаўскія палітыкі, розныя „грамадаўцы“ ды „сельсаюзьнікі“. Усе яны мелі на мэце, перш за ўсё, свае партыйныя інтарэсы. Як ведаем, нічога з гэтага ня вышла, ня вышла дзеля таго, што варшаўскія палітыкі зусім не зацікаўлены ў зямельнай рэформе на літоўска-беларускіх землях, а розныя беларускія палітычныя спэкулянты таксама дабіваюцца толькі таго, каб нашаму народу жылося якнайгорай, і каб на гэтай бядзе і горы спэкуляваць і пхаць народ на розныя авантуры.

Калі ходзіць аб варшаўскіх палітыках, то перад усім нашыя землі яны хацелі ўжываць для асадніцтва. Ня маючы сілаў перамагчы сваіх абшарнікаў, думалі яны кінуцца на нашыя землі і коштам і крыўдаю нашага мясцовага сялянства хацелі яны заспакоіць незадаваленьне сваіх уласных сялян.

Нічога дзіўнага ў тым, што заместа зямельнае рэформы дасталі мы іншы гасьцінец — *вайсковае і цывільнае асадніцтва.* Усе добра ведаем, якая крыўда зроблена гэтым нашаму сялянству.

Калі ходзіць аб грамадаўцаў і іншых, якія кармілі нас абяцанкамі, што кожны селянін дастане зямлі і то аж цэлую валоку, калі пойдзеце за імі, то самі ведаеце, што гэта было ашуканства.

Досыць з нас усяго гэтага! Досыць і варшаўскае палітыкі і абяцанак, бо абяцанкамі народу не накорміш.

Жадаем, каб да нашых зямельных справаў аднясьліся чэсна і выразна.

І дзеля гэтага высоўваем ніжэйшыя асновы зямельнае рэформы ў нашым літоўска-беларускім краі.

1) Як паказвае зямельная статыстыка, *зямельных запасаў маема ў краі вельмі мала нават на тое, каб заспакоіць нашыя краёвыя патрэбы.* З гэтае самае прычыны ня можа быць нават і мовы аб калянізацыі нашых земляў з іншых правінцыяў Польшчы. *Нашая зямля—толькі для нас.* І дзеля гэтага жадаем поўнага спыненьня вайсковага і цывільнага асадніцтва.

2) Разумеючы, што паправіць і адрадзіць сельскую гаспадарку немагчыма без скасаваньня шнуравое гаспадаркі і трохпалёўкі, *жадаем якнайскарэйшага правядзеньня камасацыі. Камасацыя мусіць быць зроблена на кошт дзяржавы і праз дзяржаву.*

3) Дзеля таго, што малазямельле робіць немагчымым стварэньне самастойных калёніяў і хутароў, жадаем, каб дробныя сельскія гаспадаркі былі павялічаны да нармальнага сярэдняга разьмеру (upełnorolnieni).

4) Зямля для гэтае мэты павінна быць дадзена ўрадам *і ні ў якім разе дарогаю прыватнае парцэляцыі.*

З прычыны таго, што а ніводзін Урад ня згодзіцца даць зямлю дарма, зямля гэтая на абкругленьне дробных гаспадарак павінна быць дадзена на варунках доўгатэрміновага крэдыту.

5) Лічачы, што шмат абшараў марнуецца, дзякуючы таму, што няма адпаведнае мэліорацыі, жадаем, каб падчас камасацыі ўсюды рабілася таксама і мэліорацыя, каб кожная калёнія гаспадароў адтрымала зусім прыгодную для апрацоўкі зямлю.

6) Дзеля таго, што дзерава на будову для дробных гаспадароў-сялян амаль недаступнае, ёсьць канечнаю патрэбай дастаўка сялянам таннага дзерава на будову калёніяў, а таксама на рэмонт і адбудову зьнішчаных будынкаў.

7) Вядомым ёсьць, што для падняцьця сваіх гаспадарак сяляне патрабуюць крэдыту. Але гэты крэдыт павінен быць танны (нізкі процант) і лёгкі да адтрыманьня, бо высокі процант руйнуе гаспадарку, і цяперашні крэдыт для сялян ёсьць задарагі і трудны да адтрыманьня.

## КРАЁВЫ „БЛЁК“ п. ГРЫНБАУМА.

У віленскіх газэтах выдрукаваны зацемкі аб тым, што ў Вільню прыехаў вядомы жыдоўскі пасол сыяністы Грынбаум з мэтаю стварэньня краёвага блёку нацыянальных меншасьцяў Польшчы, а ласьне блёку жыдоў, беларусаў і літоўцаў.

Згодна з тымі весткамі, як я мы маем — некаторыя беларускія групы, якія лічаць сябе „неўгадовымі“ — вельмі прыхільна адносяцца да ідэі пана Грынбаума.

Перад усім бязумоўна згаджаецца „Сель-саюз“ паноў Яреміча і Рагулі. Згаджаецца не таму, што ідэя сыянізму блізка сэрцу пана Яреміча, — а таму, галоўным чынам, што камбінацыя, з сыяністымі пахнець далярамі, — частка якіх перапа-

дзець і на долю пана Ярэміча і дасьць магчымасьць „купляць“ агітатараў і г. д.

Што датычыць Беларускай Хадэцыі, на чале якое стаяць беларускія ксяндзы, — то тут справа яшчэ ня высьнілася, але кажуць, што гэтая беларуская група таксама гатова ўступіць у блёк пана Грынбаума, сьціснуўшы на час выбараў сваё „хрысьціянскае“ сэрца і сваю ідэолёгію.

Але што найбольш цікава, — былыя „грамадаўцы“, якія групуюцца сягоньня каля газэты „Праца“, таксама прыхіляюцца да ідэі краёвага блёку пана Грынбаума, — і гатовы выступаць „адзіным фронтам“, абы толькі ня былі пастаўлены ў сьпісак паны Ярэміч і Рагуля. У № 6 гэтае „Працы“ ў артыкуле: „Нават чужыя разумеюць“ так і напісана чорным па белым, што „якія-б ні былі выбарныя меркаваньні ды камбінацыі паміж беларускімі партыямі ці групамі, адно можна ўжо лічыць пэўным: імёнаў Рагулі і Ярэміча, пасьля таго, што аб іх сьцьверджана, як у беларускай, так і ў польскай прэсе — у гэтых камбінацыях быць ня можа“.

Гэта значыць што грамадаўцы, тыя самыя грамадаўцы, якія ўвесь час лілі кракадылевыя сьлёзы аб тым, што яны, як рабоча-сялянскі саюз, ніколі ня пойдуць на ўгоду з „буржуазнымі“ групамі — сягоньня, калі справа дайшла да выбараў — гатовы на ўгоду ня толькі з „буржуазнымі“ і клерыкальнымі групамі,—але і больш таго — на ўгоду з буржуямі чыстае вады тыпу Грынбаума, — гэтага тыповага прадстаўніка жыдоўскага капіталу. Гатовы, абы толькі ня было Ярэміча і Рагулі.

Вось да чаго дакаціліся пракокі савецкага ладу! Вось дзе выяўляецца ўся фальш, уся мана гэтых „левых“ спэкулянтаў, — ўся бяз'ідэйнасьць і прадажнасьць тыпаў з „Нашае Працы“ і „Працы“, якія яшчэ ўчора гарлапанілі на нашай вёсцы і ў сваёй прэсе, што ні на якую ўгоду і згоду з буржуазнымі коламі ня пойдуць. Рэакцыйная сутнасьць „грамадаўшчыны“ можа найбольш, чымсь калі-б гэта ні было выяўляецца сягоньня і гэта рэакцыйная сутнасьць у тым, што грамадаўцы гатовы служыць кожнаму ворагу незалежніцкае ідэі — ці гэта будзе маскоўскі камуністы, ці жыдоўскі буржуй-капіталісты.

Беларускі селянін, — які на сваёй уласнай скуры адчуў добра ўсе дабрадзействы паслоў з Грамады і Сель-саюзу, — павінен самым рашучым спосабам адмежавацца ад гэтых спэкулянтаў на народным горы і сказаць ім: „Рукі проч!“

Рукі проч з брудными камбінацыямі і блёкамі, ў якіх інтарэсы нашага земляроба оптам прадаюцца чужацкаму капіталу і чужацкім дзяржавам.

Досыць ужо! Досыць сеяць у нашым краі нязгоду, досыць труціць душу народу. Досыць служыць чужым нашаму краю і нашаму народу сілам.

Пара паслужыць ужо і сабе, паслужыць ідэі адраджэньня краю, які ўрэшце мусіць устаць на ногі і залячыць тыя раны, якія нанясла яму вайна і без'адказная работа розных чужацкіх агентаў.

---

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

## За што выключылі Троцкага, Зіновьева і іншых з Камуністычнае Партыі.

Не чакаючы зьезду Саветаў, які мае адбыцца 1 сьнежня і на якім опозыцыя думала выступіць з абаронай сваіх тэзаў процім пануючага Сталіна, Цэнтральная Кантрольная Камісія і Цэнтральны Камітэт партыі пастанавілі выключыць павадыроў опозыцыі з партыі.

Выключэньне прысьпяшыла захаваньне опозыцыі падчас урачыстасьцяў 10 гадавіны рэвалюцыі. Опозыцыянэры падчас урачыстасьцяў рабілі дэмонстрацыі процім Сталіна, і здолелі захапіць будынак тэхнічнай школы, дзе выступалі з прамовамі павадыры опозыцыі. Староньнікаў Сталіна опозыцыянэры не дапусьцілі да голасу, а нават іх пабілі.

З другога боку Сталін баяўся, што опозыцыя можа перашкодзіць нармальным працам 15-га зьезду кампартыі.

Трэба ад'значыць, што выключэньне павадыроў опозыцыі з партыі ня спыніць таго разлому, які перажывае партыя. Троцкі мае за сабой шмат прыхільнікаў, асабліва сярод войска. Трудна дапусьціць, каб ён перастаў весьці палітычную працу. Опозыцыя і далей будзе старацца весьці працу, яднаць сабе прыхільнікаў. Такім чынам, крызыс усё будзе павялічвацца.

Усе згодна зазначаюць, што расейская рэвалюцыя так цяжкога крызысу, як цяпер, яшчэ не перажывала.

Ніжэй падаём прычыны выключэньня Троцкага і іншых з партыі, ўзятыя з „Савецкай Беларусі“ № 258 (2150) за 15 лістапада. За тое што:

а) паранейшаму выпускаюць нелегальныя антыпартыйныя лісткі, дзе ў паклёпным духу малюецца чыннасьць партыі, друкуюць гэтыя свае выданьні ў нелегальных друкарнях, абсталяваных крадзеным шрыфтам, паперай і г. д.;

б) арганізуюць шэраг антыпартыйных нелегальных сходаў, уцягваючы туды непралетарскія і варожыя партыі і рабочай клясе элемэнты;

в) падрыхтоўваюць на антыпартыйных падпольных сходах антыпартыйную дэманстрацыю, абмяркоўваюць пляны далейшай барацьбы з партыяй і ўцягваюць у гэта абмеркаваньне варожыя партыі буржуазныя элемэнты, разгортваючы, такім чынам, варожыя пролетарыяту антысавецкія сілы;

г) захватваюць сваявольна будынак аудыторыі Маскоўскай Вышэйшай Тэхн. Школы дзеля свайго антыпартыйнага сходу, пры гэтым зьбіваючы прадстаўнікоў партыйнай лініі;

д) пераходзяць к наладжаньню адкрытых мітынгаў з прамовамі накіраванымі супроць УсеКП(б), супроць савецкае ўлады;

е) у дзень 10-ае гадавіны Кастрычнікавае рэвалюцыі, замест таго, каб прысьці на агульную трыбуну ля маўзалею Леніна і разам з іншымі таварышамі вітаць мільённыя масы рабочых Масквы і Ленінграду, лідэры опозыцыі ідуць у завулкі і завулачкі, прабуюць арганізаваць там выступленьні супроць партыі, раскідваючы і расклейваючы нелегальныя антыпартыйныя лістоўкі, апэлюючы супроць партыі к варожым партыі і савецкай уладзе элемэнтам, захватваюць будынкі, заменяючы савецкіх камэндантаў і ставячы сваю ўзброеную варту, нарушаючы тым самым рамкі савецкай легальнасьці і адкрыта становяцца, та-

кім чынам, рупарам сіл, варожых рэжыму пралетарскай дыктатуры.

Цэнтральная Кантрольная Камісія і Цэнтральны Камітэт УсеКП(б), прызнаючы гэту чыннасьць зусім недапусьцімай для членаў партыі і тым больш для членаў ЦК і ЦКК, — ухваляе:

а) выключыць з ЦК і ЦКК членаў і кандыдатаў ЦК — т.т. Каменева, Сьмілгу, Еўдакімава, Ракоўскага, Аўдзеева і членаў ЦКК—Муралава, Бакаева, Шклоўскага, Пэтэрсона, Салаўёва і Лізьдзіна;

б) лічыць неабходным зьняць памянёных таварышоў з кіруючай партыйнай і савецкай працы;

в) у адносінах таварышоў Троцкага і Зіноўева, якія зьяўляюцца галоўнымі кіраўнікамі ўсей гэтай антыпартыйнай чыннасьці, якая перараджаецца ў чыннасьць антысавецкую і падрывае дыктатуру пролетарыяту, ад'значаючы, што на пастаўленае т.т. Зіноўеву і Троцкаму на паседжаньні 11 лістапада 27 г. катэгарычнае патрэбаваньне спыніць зараз-жа арганізацыю нелегальных антыпартыйных сходаў і адмовіцца ад перанясеньня ўнутрыпартыйнай дыскусіі за межы партыі, адказалі дэмонстрацыйным выхадам з паседжаньня Прэзыдыуму ЦКК, прыслаўшы праз некалькі гадзін ліст з адказам, у якім запраўды адхіляюць гэтыя элемэнтарнейшыя для кожнага члена партыі абавязкі перад партыяй, — таварышоў Троцкага і Зіноўева з шэрэгаў УсеКП(б) выключыць;

г) папярэдзіць т. т. Каменева, Сьмілгу, Еўдакімава, Ракоўскага, Аўдзеева, Радэка, Муралава, Бакаева, Шклоўскага, Пэтэрсон, Салаўёва і Лізьдзіна, што пытаньне аб саўмясьцімасьці іх фракцыйнай чыннасьці ў час знаходжаньня іх у шэрэгах УсеКП(б) Прэзыдыум ЦКК ставіць на разгляд 15-га зьезду партыі.

# Корэспондэнцыі.

## Конфэрэнцыя Аб'яднаньня Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (А. Б. С. А.).

11 лістапада 1927 г. у Вінаградзкім Народным Доме (Прага-Чэская) адбылося ўрачыстае адчыненьне III зьезду А. Б. С. А. Па кароткай, у дабаўку не прыгатаванай, прамове старшыні адчыніўшага зьезд, сэкрэтар А. Б. С. А. запрапанаваў паслаць прывітальную тэлеграму Прэзыдэнту Чэхаславацкае Рэспублікі. Першае слова для прывітаньня меў прадстаўнік украінскага студэнства (Ц. Э. С. У. С.). Далей вітаў зьезд прадстаўнік нямецкага студэнства, які гаварыў раней панямецку і тут-жа перавёў сам на чэскую мову. Вельмі шчыра віталі прадстаўнікі Югаславянскага і Грузінскага студэнства. Далей былі адчытаны прывітальныя пісьмы ад Кубанцаў і іншых. Чародныя прывітаньні былі ад беларускіх студэнскіх угрупаваньняў: ад Беларускае Рады, Культурна-Прасьветнага Т-ва імя Фр. Скарыны, Студэнскага Сялянскага Саюзу Вольнай Грамады, а таксама ад Беларускага Студэнства ў Украінскай Гаспадарчай Акадэміі ў Падэбрадах і ад студэнства ў Брацілславе.

Прывітальнае слова мелі толькі прадстаўнікі ад арганізацыяў. Так прайшло офіцыяльнае адчыненьне ад 10—12 гадз.

Рэчавая часьць зьезду пачалася а 3 гадз. і працягнулася да $8\frac{1}{2}$ гадз. вечара. Зьезд выбраў новы прэзыдыум А. Б. С. А., у склад якога ўвайшлі: старшыня — Лаўскі Вечаслаў, рэфэрэнт прэсы др. Грыб Тамаш, міжнародны рэфэрэнт Клімовіч Адольф, эканамічны рэфэрэнт Русак Васіль і сэкрэтар Грышкевіч Францішак. Таксама была выбрана Рэвізійная Камісія з 3 асоб і суд чэсьці. Як ведама, цэнтраля беларускага студэнства А. Б. С. А. паўстала ў 1924 г. А. Б. С. А. ўходзіць, як роўнапраўны сябра, ў Міжнародную Студэнскую Конфэдэрацыю С. І. Е., міма перашкодаў, робленых расейскімі студэнтамі і беларускімі зьменавахаўцамі. Як будзе працаваць новы прэзыдыум, пакажа будучына. Трэба ад'значыць, што ў новы прэзыдыум увайшлі людзі з яркай палітычнай афарбоўкай. Трэба, аднак, думаць, што ў галіне справаў, зьвязаных з жыцьцём студэнскіх арганізацыяў, яны будуць, перш за ўсё, студэнтамі. *Мох.*

## Чым займаюцца нашы сяляне зімовай парой?

*(вёска Гулі, Пастаўскага пав.).*

Праўду кажучы, селяніну, як зіму, так лета, няма вольнай часіны. Ніколі ён не пасядзіць, злажыўшы рукі: калі не займаецца карыснай працай, дык працуе над шкоднай гульнёй. Гэтая шкодная гульня вельмі адчуваецца па нядзелях і сьвяточных днёх. За недахопам карысных занядкаў прылучаецца да ведамых у вёсцы картэжнікаў і здаровы элемэнт сялянства, які заражаецца на гэту хваробу, псуючы здаровую атмасфэру вёскі.

Моладзь таксама ідзе не па лепшым шляху: калі ня гуляе разам з старымі ў карты, то займаецца п'янствам і бойкамі. Хаця, праўда, бяз ніякага занятку вельмі сумна праводзіць зімовыя вечары. Доўгую зіму прасядзець у душнай і веснай хаце, бязумоўна трудна кожнаму селяніну. Чалавек, каторы нічым ня цікавіцца, добрага занятку ня мае, благога стараецца ўнікаць, ён з свае хаты творыць сабе турму, з якой ня мае дзе выйсьці. Вечна наракае ён на сваё жыцьцё і год ад году чакае паправы свайго лёсу. Але гэта якраз выходзе наадварот: ён штораз болей западае ў бяздонную прорву бяды і гора. І чаго добрага можа спадзявацца селянін ад гэткага жыцьця? Бязумоўна гэткі парадак жыцьця нічога добрага даць ня можа, апрача злога, калі мы самі ня станем кавалямі свайго шчасьця. Замест чакаць гадамі чужой помачы, лепей свой лёс зразу ўзяць у свае рукі. Трэба цьвёрда верыць, што наша шчасьце залежыць ад нас саміх.

— Якім-жа спосабам мы можам паправіць нашае жыцьцё? — паўстане не ў аднаго з нас пытаньне. Адказ на гэта зусім ясны: „Каб паправіць наш дабрабыт, каб даць адпор ворагам нашага жыцьця і ўзбагаціцца матар'яльна і духова, то канечна патрэбна згода і арганізацыя. Супольнымі сіламі можам дабіцца таго, да чаго адзін чалавек ніколі не дайдзе; арганізованая маса заўсёды здолее пралажыць сабе шлях да паправы матар'яльнай і духовай.

Дык, сяляне вёскі Гуляў! Кінем марнаваць так сумна свой час і прыступем да арганізацыі новаствоpанай Бел. Рад. Нар. Партыі. Гэта адна з тых, якая яднае ў адну сям'ю Беларускі народ і шчыра бароніць нашыя інтарэсы. Ня будзем тады займацца шкадлівымі гульнямі, а будзем набіраць веды і веры ў свае ўласныя сілы; арганізацыя гэта будзе памагаць нам ува ўсіх напрамках працы, такім чынам мы ўзбагацімся духова і вызвалімся матар'яльна. *Вясковы.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як выбраць добрага каня.

(Гл. № 35 „Бел. Дня“).

### Пазнаваньне гадоў.

Гады ў каня пазнаюцца па зубох, ці, выразьней кажучы, па зьмене і зьяданьні пярэдніх шасьцёх пар зубоў. Дзеля гэтага, каб пазнаць колькі каню гадоў, трэба ведаць, якім парадкам у каня вырастаюць зубы і якім парадкам яны ў яго зьядаюцца.

Усіх зубоў у сталага каня бываець 40, а ў кабылы 36. Зубы ў каня разьдзяляюцца на заднія (кутнія) і пярэднія. Кутніх зубоў бывае 24, а пярэдніх 12; апрача таго, конь маець яшчэ 4 клыкі. Клыкі ў кабылы спатыкаюцца надта рэдка.

Дзеля таго, што гады ў каня пазнаюцца толькі па пярэдніх зубох, дык мы будзем зварочваць увагу толькі на іх.

Жарабё родзіцца на сьвет з 12 кутнімі зубамі: па шэсьць зубоў уверсе і ўнізе. У першыя два тыдні прарэзваюцца па пары пярэдніх зубоў, якія называюцца *захватнікамі*; хаця часта бывае што жарабё ўжо родзіцца з імі. Праз 3-6 тыдняў вырастаець яшчэ па аднэй пары зубоў уверсе і ўнізе (па адным зубе каля захватнікаў). Гэтыя зубы называюцца *сераднякамі*. З гэтымі чатырма парамі зубоў жарабё бываець да 6—9 месяцаў. За гэты час першыя пары зубоў (захватнікі) на трэцім месяцы жыцьця жарабяці вырастаюць на ўсю велічыню і далей ужо не растуць; а на чацьвёртым месяцы серадзякі даганяюць захватнікі і робяцца роўнымі з імі. На 6—9 месяцы прарэзваецца ў жарабяці з кожнага боку яшчэ па адным зубе, гэта трэція і апошнія дзьве пары зубоў, якія называюцца *крайнікамі*. Да канца першага году крайнікі вырастаюць і робяцца роўнымі з сераднякамі і захватнікамі. Такім парадкам, у канцы першага году свайго жыцьця жарабё маець усе шэсьць пар пярэдніх зубоў—*малочных*.

Ад 1 да $2^{1}/_{2}$ гадоў век жарабяці пазнаецца ўжо па зьяданьні гэтых зубоў. Трэба ведаць, што паверхня зуба—*карміна* — у маладога каня ня гладкая, а маець пасярэдзіне ямачку, так што берагі зуба вышэй за сярэдзіну. На малочных зубох ямачкі бываюць мялчэйшыя, а на сталых глыбейшыя. Зразумела, што карміна павінна сьцірацца раней на тых зубох, якія раней прарэзаліся. Праз гэта к $1^{1}/_{2}$ гадом жыцьця ў жарабяці бываюць ужо зьедзены ямачкі на захватніках і сераднякох, а ў два гады карміна бываець гладкая і на крайніках.

Да гэтага часу мы пазнавалі век жарабяці па малочных зубох. Пасьля $2^{1}/_{2}$ гадоў жарабё пачынае скідаць малочныя зубы: на месца іх прарэзваюцца і вырастаюць сталыя, якія адрозьніваюцца ад малочных болей цьмяным колерам, шырэйшыя і даўжэйшыя. Дзеля гэтага, пасьля $2^{1}/_{2}$ гадоў век каня пазнаецца ўжо па сталых пярэдніх зубох.

Каля $2^{1}/_{2}$ гадоў у каня ўверсе і ўнізе вывальваюцца малочныя захватнікі, а на месца іх прарэзваюцца сталыя. Да 3 гадоў гэтыя зубы вырастаюць на ўсю сваю велічыню (гл. рыс. 2). Далей, цераз кожны год, конь скідаець па дзьве пары (па пары ўверсе і ўнізе) малочнікаў, на месца каторых зьяўляюцца сталыя зубы, якія цераз паўгода раўняюцца з першымі. Так што ў $3^{1}/_{2}$ гады ў каня прарэзваюцца серадзякі, якія да 4 гадоў вырастаюць роўна з захватнікамі, а ў $4^{1}/_{2}$ прарэзваюцца і сталыя крайнікі. У пяцёхгадовага каня крайнікі выроўніваюцца з сяреднімі і приблізна каля гэтага часу ў жарабцоў вырастаюць клыкі (клы). Значыць, пяцёхгадовы конь маець усе сталыя зубы і клыкі.



Рыс. 2. Пярэднія зубы ў каня ў 3 гады.

Пасьля 5 гадоў, век каня пазнаецца па зьяданьні карміны ніжніх пярэдніх зубоў. Кожны год ямачка на карміне зьядаецца на адну трэцюю часьць сваё глыбіні, так што цераз тры гады яна бываець сьцёртая зусім і паверхня зуба (карміна) робіцца гладкай.

Калі прыпомнім, што першыя дзьве пары зубоў—захватнікі—вырастаюць каля 3 гадоў, а ямачка на карміне зьядаецца за тры гады, то ў шасьцёхгадовага каня павінны быць захватнікі зьедзенымі, гладкімі. Так яно і бываець. У сямёхгадовага каня ямачкі ўжо бываюць сьцёртыя на сераднякох, а ў васьмёхгадовага — зьядаюцца ямачкі і на крайніках. Такім парадкам у васьмёхгадовага каня карміна на ўсіх ніжніх пярэдніх зубох бываець зьедзеная: паверхня зубоў гладкая бяз ямачкаў.

Цяпер ужо гады каню пазнаюцца па карміне верхніх зубоў. Верхнія зубы, хоць і прарэзваюцца разам з ніжнімі, але ямачкі на карміне маюць у два разы глыбейшыя, так што і зьядуцца яны не за тры гады, як на ніжніх зубох, а прыблізна праз гадоў шэсьць.

Як мы ўжо ведаем, захватнікі вырастаюць у тры гады, то ў дзесяцёхгадовага каня павінны быць сьцёрты ямачкі на верхніх захватніках, у дзесяцёхгадовага — на сераднякох. У адзінацацёхгадовага каня няма ямачкаў ужо ня толькі на ніжніх, але і на ўсіх верхніх зубох. Паверхня ўсіх зубоў бывае гладкая.

Бяручы пад увагу тое, што конь пасьля 12 гадоў можа быць ужо названы старым, купляць яго ў гаспадарку няварта. Дзеля гэтай прычыны і на пазнаваньні веку каня пасьля 11—12 гадоў мы доўга спыняцца ня будзем. Каротка скажам толькі, што пасьля зьяданьня карміны, зьедзены зуб паступова зьмяняець сваю форму, расшыраючыся і выцягваючыся (гл. рыс. 3). А дзеля гэтага ў старога каня трэба зварочваць увагу на форму паверхні зуба, якая ад 6 да 12 гадоў на

ніжніх захватніках, далей сераднякох і. нарэшце, крайніках маець удаўжкі пацяглую (авальную) форму, з 12 да 18—круглую, а з 12 да 24—трохкантовую. Пасьля 24 гадоў да канца жыцьця каня паверхня зубоў маець папярок пацяглую (авальную) форму (гл. рыс. 3).

Трэба ведаць, што ў некаторых выпадках, праўда рэдкіх, не ўдаецца якраз адгадаць па зубох, колькі каню гадоў. Зьяданьне зубоў залежыць з аднаго боку ад цьвёрдасьці самых зубоў, а з другога — ад цьвёрдасьці і сухасьці корму. Ад сухога і цьвёрдага корму зубы зьядаюцца хутчэй, ад мяккага—наадварот. У некаторых коняй бываюць і такія зубы, якія і ад цьвёрдага корму зьядаюцца надта мала. Гэткія зубы называюцца *смалякамі.* Смалякі звычайна бываюць шмат даўжэйшымі за нармальныя зубы і чарнейшыя за іх. Конь з смаляныні зубамі можаць мець гадоў 15, а на зубох будзе паказваць усяго гадоў 7—8. Дурная прывычка каня грызьці зубамі скрыню або драбіны таксама перашкаджае пазнаваньню гадоў. У гэткіх „грызуноў" зубы сьціраюцца хутчэй і па зубох грызуны выдаюцца старшымі, чым запраўды ёсьць.

Часта барышнікі, каб прадаць старога каня за маладога, выпякаюць гарачым зялезам ямачкі на зьедзеных зубох, або перш долатам на карміне выбіваюць ямачку, а бакі ямачкаў прыпякаюць напаленай да чырвона драцінай і кусочкам смалы. Аднак, гэткая фальш, калі добра ўглядзецца ў форму ямачкі, можаць быць лёгка выкрыта. Натуральная ямачка бываець правільнай формы з круглымі берагамі, тады як штучная бываець няроўная з зубцамі. А самае галоўнае тое, што натуральная ямачка бывае абведзена кругом белым абадком, якога якраз ня бываець ніколі ў штучнай.

Апрача таго, што па зубох у каня пазнаецца, колькі яму гадоў, па зубох можна прыблізна ўгадаць і натуру каня. Чым болей пярэднія зубы служаць наперад (чым болей на клін сходзяцца верхнія зубы з ніжнімі), тым конь будзе удалейшы. У тупых, лянівых коняй зубы найчасьцей сходзяцца стоць верхнія над ніжнімі.

**Рыс. 3. Форма зубоў у каня ад 6 да 24 гадоў.**




1 — пацяглы (авальны) з 6 гадоў.
2 — круглы з 12 гадоў.
3 — трохкантовы з 18 гадоў.
4 — папярок пацяглы з 24 гадоў.

*Янка Пачопка.*

(Працяг будзе).

---

# Лён і каноплі.

Да „тэхнічных" расьлін ці, інача́й кажучы, такіх расьлін, ад якіх у сырым ці неапрацованым відзе няма чалавеку ніякае карысьці, а карысьць ад іх толькі тады, калі яны перапрацованы, адносіцца лён і каноплі. З насеньня лёну і канапель дастаюць расьлінныя (по:ныя) маслы, льнянае і канаплянае, а з іх сьцёблаў даста-цца валакно. З льняных валокнаў выробляецца, галоўным чынам, палатно, а з канапляных парусіна і вяроўкі.

У сялянскіх гаспадарках звычайна стараюцца дастаць з гэтых расьлін аднача́сна і насеньне і валакно, пры чым як магчыма больш і таго і другога, думаючы, што гэта выгадней, дзеля чаго і пасеў робяць амаль што не заўсёды аднальковае гушчыні. У вялікіх гаспадарках, дзе больш трымаюцца навуковых і практычных досьледаў, робяць іначай. Калі хочуць адтрымаць больш насеньня і лепшае якасьці, то сеюць радчэй, але аднача́сна сьцёблы будуць карацейшыя, і колькасьць іх будзе меншая, праз гэта на валакне страта.

Калі-ж хочуць адтрымаць больш валакна, то наадварот робяць пасеў гусьцей; тады сьцёблы цягнуцца ўгару і валакна выходзіць больш, а насеньня ў гэткім выпадку адносна менш. Калі-ж вылічыць на грошы, то ў першым і другім выпадку, пры такой правідловай гаспадарцы, заўсёды карысьць для гаспадара бывае большая, чым у сялянскай дробнай гаспадарцы, дзе часта выходзіць ні тое ні сёе—ні добрага насеньня, ні добрага валакна.

Адносна лёну трэба ведаць, што ён з усіх гаспадарчых расьлін найбольш выцягвае пажыўных сокаў з зямлі і праз тое псуе грунт. Калі-ж лён сеецца вельмі рэдка (на насеньне), то, апрача таго, і высушвае грунт. Дзеля гэтага ні ў якім выпадку ня можна сеяць лёну на адным месцы раней, як праз *6 гадоў.*

Сяляне, што сеюць лён на адным месцы часта, даводзяць поле да поўнае бясплоднасьці, і на такім полі пасьля лёну ўжо ніякая гаспадарчая расьліна не расьце добра. Гэта неабходна памятаваць, бо лёгка можна застацца на штат гадоў зусім бяз хлеба, трымаючы сваіх дзетак галоднымі. Апрача таго, новы пасеў лёну на тым самым месцы дае ўраджаі ўсё меншыя і слабейшыя. Калі-ж сеяць лён не часьцей, як праз 6 гадоў, то расьліна вялікай шкоды грунту ня прыносіць.

Для лёну найлепш выбіраць добра апрацованы сугліністы грунт на вышэйшым месцы. Таксама добры ўраджай можа быць і на ніжэйшым супяску, толькі калі гэты супясчаны грунт моцны, не аслаблены частымі пасевамі хлебавін ці лёну.

Лён можна сеяць на 3-ці, нават на 4-ты год пасьля гною. Калі сеем лён на аслабленай зямлі, неабходна тады яшчэ пагнаіць зьверху. Дзеля гэтага паліваць поле гнаёвай жыжкаю і пасыпаць попелам, якога даюць прыблізна 30 пудоў на дзесяціну.

Амаль што ні ўва ўсіх расьлін лепшым насеньнем ёсьць насеньне самае новае з апошняга году, а ў лёну наадварот, лепшым насеньнем лічыцца тое, што ўжо праляжала 2—3 гады.

З такога насеньня вырастаюць сьцёблы лёну без пабочных галінак і валокны бываюць танчэйшыя і даўжэйшыя.

Добрае бліскучае, залацістае, прадаўгаватае насеньне лёну ў вадзе патоне, а на гарачай скаварадзе трашчыць і лопаецца. Перад тым, як сеяць, трэба добра насеньне вычысьціць ад розных сьметнякоў на спэцыяльным трыеры ці трашчотцы для чышчэньня ляннага семя.

Калі лён сеецца на валакно, то на дзесяціну трэба высеяць прыблізна 12 мер насеньня, калі-ж сеецца на насеньне, то высяваецца толькі каля 6 мер на дзесяціну, значыцца ў два разы менш.

Як абходзіцца з лёнам у той час, як ён расьце, ўсім больш-менш ведама.

Трэба кару, што творыцца на паверсе грунту, старацца разьбіваць часьцей. Калі лён падымецца ўжо на 2—3 вяршкі, то трэба яго часьцей палоць, і адначасна вырываць тыя калівы лёну, што пажаўцелі (сухія).

Калі лён паляжа ў той час, як цьвіце і калі на его сьцёблах зьяяцца рыжавата-чорныя плямы (іржа), то трэба ўвесь лён адразу вырваць. Здаровы лён, пасеяны на насеньне, зьбіраецца тады, калі галоўкі пачынаюць дасьпяваць, а споднія лісты ападаюць. Вырываць лён трэба малымі жменямі, пасьля абіваць ад зямлі, але так, каб не паламаўся.

Галоўкі лёну з насеньнем абіваюцца аб грабяні, ці на дошцы калатушкаю. Да малацьбы галоўкі насеньня сушаць ад аднаго да паўтара месяцаў і тэмпэратуру даводзяць да *40° С.* Малоцяць цапамі, калатушкамі і іншымі спосабамі, а пасьля веюць, падобна як хлебавіны.

Сьцёблы мочаць дзеля таго, каб адлучыць клей, што знаходзіцца між валакном і карою (кастрыцаю).

Калі мочаць лён у вадзе, то такі лён завуць „мачанец“, калі ж яго сьцелюць па расе, то завуць „расянец“ ці „сланец“.

Мочаць часта ў вадзе стаячай і зьверху накрываюць чым-небудзь цяжкім, каб ня ўсплыў наверх.

Дзякуючы таму, што пры гэтым сьцёблы лёну гніюць, з вады ўсплываюць пузыркі розных газаў (мэтану, вуглявога квасу і інш.). Мочаць лён звычайна каля тыдня. Наагул лепш недамачыць, чым перамачыць. Калі-ж лён сьцелюць па расе, то выбіраюць месца сухое дзе-небудзь на сенажаці ці на полі, так трымаюць лён да таго часу, пакуль валакно зусім не адлучыцца, на што патрэбна каля 5 тыдняў.

Мочаныя сьцёблы з тысячы фунтаў даюць прыблізна 160 фунтаў валакна, а пры сьцяленьні па расе выходзіць прыблізна толькі 125 фунтаў, але за тое лён—расянец мягчэйшы, лепш беліцца, як мочаны, які аднак-жа колер мае лепшы, чым расянец.

Пасьля ўжо ідзе апрацаваньне валакна, трапаньне, часаньне і г. д., каб валакно аканчальна пазбавілася кастрыцы. Мяць і трапаць лён найлепш на спэцыяльных машынах, якія нажаль у нас яшчэ мала распаўсюджаны.

Ураджай лёну лічыцца сярэднім, калі з дзесяціны пры сяўбе на валакно адтрымаем 150 пудоў, з якіх чэсанага валакна выходзіць да 80 пудоў, насеньня 30—35 пудоў; ці калі пры сяўбе на насеньне адтрымаем 60 пудоў насеньня і валакна прыблізна 20 пудоў. З кожных 10 фунтаў насеньня можна адтрымаць 3 фунты ляннага масла; пры гэтым яшчэ застаюцца жмыхі, якія ўжываюцца, як вельмі добры пажыўны корм для жывёлы, бо маюць у сабе яшчэ шмат бялкоў і жыру. Вельмі добра даваць лянныя жмыхі коням і маладым жарабятам. Коні вельма хутка спраўляюцца, і шэрсьць робіцца блішчастаю.

Шмат з таго, што мы казалі аб лёне, можна таксама аднясьці і да *канапель.* Каноплі добра растуць на добрым выгнаеным грунце, найлепш на на перапрэўшым конскім гнаі.

Часта пад каноплі адводзяць асобныя невялікія вучасткі зямлі — „канаплянікі“. Таксама і для канапель, як для кожнае іншае гаспадарскае расьліны, лепш зьмяняць месца. Каноплі трэба сеяць трохі раней, як лён, але так, каб маразы, што бываюць вясной з раніцы, не пашкодзілі ўсходаў. Насеньня на дзесяціну выходзіць прыблізна столькі, як і лёну — каля 6 мераў, а на валакно каля 12 мераў. Насеньне бывае толькі на тых (жаночых) расьлінах, якія фактычна і завуцца канаплямі, на рэшце іх (мужчынскіх), што растуць разам, насеньня ня бывае. Мужчынскія расьліны (драніцы) сьпеюць раней, як каноплі і з іх выходзіць белае валакно, больш танчэйшае, як ад жаночных.

Выбіраюць драніцы (мужчынскія расьліны) тады, калі на каноплях пачынаюць зьяўляцца галоўкі насеньня, і апрацоўваюць іх асобна. Астаткі пасьля гэтага канапель лепш растуць і даюць больш насеньня.

Калі каноплі сеяліся на насеньне, то насеньня з дзесяціны адтрымоўваецца каля 65 пудоў, значыць сярэдні ўраджай сам-10, ды апрача таго, з сьцёблаў адтрымоўваецца да 25 пудоў валакна. Пры сяўбе на валакно ўраджай насеньня бывае 40 пудоў, але затое валакна дастаецца амаль што ні ў два разы болей.

Канаплянае масла спажываюць ня толькі людзі, але так сама яно ўжываецца і ў розных іншых выпадках, дзеля чаго яго заўсёды можна добра прадаць. *П.*

## Аб цяленьні.

Карова целіцца пасьля злучкі праз $9^1/_2$ ці 10 месяцаў (280—300 дзён). Выпадкі, што карова целіцца раней, бываюць часьцей, і мала калі карова целіцца пазьней, як праз 300 дзён ад злучкі. Перад цяленьнем, карова, асабліва маладая, становіцца нэрвознаю, неспакойнаю, бо пачынаюцца болі, карова лажыцца, мычыць, часта мочыцца і робяцца ў яе схваткі ў жываце (у гэны час ёй можна лёгка расьціраць жывот).

Праход прыпухае, чырванее і паказваюцца родавыя воды, часта з вялікаю колькасьцю крыві, што бывае, галоўным чынам, пры моцных патугах, у маладых кароў.

Перад самым цяленьнем карова звычайна лажыцца і тады пры патугах паказваецца жыдкасьць, што ў жываце знаходзіцца навакол цяляці. Ніколі ня трэба ў пачатку цяленьня памагаць, цягнуць і разрываць пузыр. Памаганьнем, а тым болей няўмелым, можна толькі пашкодзіць. Пры патугах пузыр у свой час разрываецца сам сабою, паказваюцца выцягнутыя ногі цяляці, а пасьля і галава. Пры гэткім правідловым цяленьні, калі цяля выходзіць абедзьвюма пярэднімі нагамі і галавою, і пры тым, калі карова старая і слабая, то можна і нават трэба памагаць, цягнучы асьцярожна цяля, ў часе патугаў, але не цягнуць яго ў бакі ці ўгару, каб не парваць перакладзіну, а цягнуць трохі ў напрамку ўніз.

Як толькі пярэднія ногі і галава прайшлі, то можна лічыць, што парод ужо прайшоў добра, і помач трэба пакінуць. Канец цяленьня для каровы лягчэйшы, як пачатак; самы цяжкі момэнт бывае, калі праходзіць галава, што можна заўважыць па патугах каровы. Бываюць выпадкі, што цяля мае вельмі вялікую галаву, і тады цяленьне не праходзіць заўсёды шчасьліва, дзеля чаго ня трэба браць на племя быка вельмі вялікага ці з вельмі вялікаю галавою.

Калі цяля ідзе неправідлова, ня гэтак, як вышэй апісана, то гэта ўжо шмат горай і часта ў такіх выпадках парод канчаецца нешчасьліва. Калі, напрыклад, спачатку пакажацца толькі адна нага, замест дзьвёх, то ў гэтым выпадку можна яшчэ памагчы тым, што, вымазаўшы руку дзераўляным маслам і ўсадзіўшы яе ў сярэдзіну, выправіць нагу, што падвярнулася, а то ў той час, калі яшчэ галава толькі што паказалася. Зрабіць гэта трэба ўмеючы і асьцярожна.

Калі-ж у гэтакім выпадку паказалася ўжо зусім добра галава, то яе трэба асьцярожна падаць назад і тады высвабадзіць падверненую ўжо другую нагу. У іншых выпадках, пры неправідловым цяленьні, трэба заўсёды зьвярнуцца да чалавека, які на гэтым добра знаецца, а найлепш да вэтэрынара, бо няўмелаю помачай можна ня толькі пашкодзіць карову ці цяля, але і загубіць іх.

Толькі што народжанае цяля злучана з маткаю пупавінаю, якая амаль што заўсёды абрываецца сама сабою, калі карова ўстае. Калі-ж пупавіна не абарвалася, то яе трэба перавязаць і адрэзаць чыстымі ня іржавымі ножніцамі. Ня можна абрэзваць зараз-жа, як толькі цяля выйшла і яшчэ ў яго няма дыханьня, бо ў такім выпадку можа пайсьці з пупка кроў. Трэба адразу прачысьціць нос і рот ад сьлізі, што там сабралася, і калі і тады цяля ня дыхае, то трэба трохі папляскаць яго рукамі. Народжанае цяля карова аблізвае.

Калі-ж карова ня хоча яго лізаць, то пасыпаюць яго сольлю ці атрубамі і тады карова ліжа ахватней. Вельмі нэрвозным, неспакойным каровам нявартa даваць лізаць каля пупка, бо пры неспакойным лізаньні каля жывата, карова можа абарваць пупавіну вельмі блізка і пашкодзіць цяляці. Пупавіна трэба каб была чыстая і добра перавязана, бо іначай праз яе могуць пралезьці ў сярэдзіну розныя шкадлівыя мікраарганізмы ці бактэрыі і пасьля цяля захварэе. Вельмі часта ў такім выпадку цяляты хварэюць ганячкаю.

Калі карова цяляці не аблізвае, ці аблізвае вельмі слаба, дзякуючы таму, што сама яна змучана, то тады цяля абціраюць мягкаю саломаю, і накрываюць цёплаю гунькаю, асабліва калі холадна.

Калі цяля ўжо ўстане, дык яму даюць трохі нассацца малодзіва. Гэтае першае малако, ці малодзіва мае ў сабе шмат бялкоў, вельмі хутка ўжываце скручваецца і ўбірае ў сябе розную сьлізь, што знаходзіцца ў кішках у цяляці, і такім чынам чысьціць жывот і дае магчымасьць далей ужо працаваць яму нармальна.

Праз некалькі гадзін пасьля цяленьня выходзіць з маткі каровы пасьлед, карова счышчаецца. Пры нармальным пародзе пасьлед выходзіць сам сабою зусім свабодна. Але бываюць выпадкі, што пасьлед затрымоўваецца вельмі доўга і нават загніваецца ў матцы, тады трэба зьвярнуцца абавязкова да вэтэрынара, каб абавязкова пасьлед дастаць, бо іначай настане інфэкцыя, атручэньне крыві, і карова ў хуткім часе здохне.

Месца, дзе карова мае цяліцца, мусіць быць акуратна вычышчана. Падсьціл, змочаны родавымі водамі, а таксама і пасьлед, трэба аднясьці далей ад кароўніка і глыбей закапаць у зямлю. Калі падсьцілу ня было, то трэба тое месца, дзе карова цялілася, ачысьціць, абсыпаць зямлёй, ці найлепш пяском, можна абкрапіць дзёгцем і палажыць сьвежай чыстай саломы. Толькі што ацеленай карове даюць пойла з цеплаватай вады і прыдаюць да гэтага атрубы.

Таксама ў некаторых месцах даюць і розныя крупнікі, каву, і нават гарэлку, калі карова зусім аслабела. Карову, пасьля ацёлу, трэба вельмі добра даглядаць, бо ў першыя дні пасьля ацёлу, пакуль матка адчынена і ня прыйдзе да нармальнага стану, могуць усесьціся розныя бактэрыі, і карова можа вельмі хутка і небясьпечна захварэць. Трэба, каб карова стаяла ў цёплым месцы, вады не даваць сьцюдзёнае, пойла сьвежае, не заплясьнелае.

Нельга даваць такое пашы, што аслабляе: бурачнік, капуста і г. д. Пасьля ацёлу ня можна адразу даваць пашы зашмат.

Таму, дзе працуюць каровамі, што распаўсюджана ў дробных гаспадарках за граніцаю, нельга пасьля ацёлу ўжываць карову да працы каля месяца.

*П.*

---

## Соль для жывёлы.

Кожнаму добра ведама, што чалавек ня можа абыйсьціся бяз солі. У часе вайны, калі быў страшэнны недахват солі, зьявіліся на гэтым грунце розныя хваробы. Таксама і жывёла патрабуе солі да сваё пашы, бо паша тады робіцца страўнейшаю, і жывёла мае здаравейшы выгляд. Навуковыя досьледы паказалі, што тыя каровы, якім давалі ў пашы соль, шмат паправіліся на целе, шэрсьць іх рабілася гладкаю, бліскучаю, давалі больш малака і былі шмат вясялейшымі за тыя каровы, якім солі не давалі. У кожным корме: сене, саломе, канюшыне, бульбе, бураках і г. д. ёсьць малая доля солі, якую расьліна калі расьце, выцягвае з зямлі, але солі гэтай мала для жывёлы, каб магла яна быць зусім здароваю. Соль мае ў сабе натрый, і гэты натрый неабходны для кожнага арганізму, асабліва тады шмат натрыю вымагае арганізм, калі паша мае ў сабе шмат калію, бо калі сам па сабе ёсьць ядам для арганізму, а натрый гэтае шкадлівае дзеяньне калію зьнішчае, — паралізуе. Так, напрыклад, бульба мае ў сабе шмат калію, і калі мы даем жывёле шмат бульбы, то абавязкова мусім дадаваць і соль. Па сёлах здараецца бачыць, як жывёла, варочаючыся з пашы, шукае сама сабе солі: каровы і авечкі спыняюцца грамадамі пры дамох і ліжуць падмуроўкі, грызуць косьці, суконныя скуматы, ліжуць пасьлед людзей, авечкі згрызаюць адна ў аднае воўну, коні грызуць ясьлі і жалабы. Жывёла сама стараецца знайсьці соль, а, ведама, неразумнае стварэньне, замест памагчы, часта толькі шкоду сабе робіць: каровы, напрыклад, часта давяцца касьцямі, авечкі, глытаючы воўну, хварэюць і здыхаюць, коні гры-

зучы дзерава—псуюць сабе зубы. З гэтага вось і выходзіць, што добры гаспадар, які дбае аб сваёй жывёле, павінен сам дадаваць соль у корм.

Трэба таксама асьцерагацца, каб не даваць зараз солі зашмат, бо гэта таксама шкодзіць. Жывёла тады п'е больш вады, траціць больш энэргіі на агравань не і выдзяленьне гэтае вады і такім чынам, худзее. Коням і каровам трэба даваць 30 — 50 грамаў солі ў дзень—на галаву; (кілёграм мае 1000 грамаў), авечкам і сьвіньням ня больш, як 10—15 грамаў. Соль можна дадаваць жывёле, паліваючы салёнай вадою сухі корм, і можна саліць адразу ўвесь запас корму, складаючы ў пуню з восені. На 10 пудоў сена сыплецца два-тры фунты солі.

Авечкам найлепш даваць соль у кавалачках так, каб яны яе лізалі, і падвесіць гэту соль вышэй, каб кожны раз, як авечка хоча лізнуць, крыху падскочыла. Дзеля таго, што звычайная соль адносна дорага каштуе, лепш купляць соль дэнатураваную, гэта значыць такую соль, да якой яшчэ дадаецца які-небудзь парашок, каб людзі не маглі спажываць. Дэнатураваная соль каштуе шмат таньней, бо пазбаўлена падатку. Прадаецца такая соль толькі ў крамах, якія маюць на гэта спэцыяльны дазвол.

## Як захаваць фруктовыя дрэвы ад зайцоў.

Глыбокія сьнягі і маразы прынукаюць зайцоў шукаць сабе пажывы па вёсках каля гумнаў. Каму ня прыходзілася, ідучы з сяла, марознай сьветлай ноччу бачыць, як заяц сядзіць у садку каля дрэўца і старанна абкусвае сучкі. Ах, каб ты згарэў, косы чорт! Вось куды забраўся, аж пад самую хату! Хлоп, хлоп у далоні! Заяц скок, скок і — няма. Назаўтра бачым дрэўца пашкоджана, галінкі, як ножыкам, пасьцінаны.

Некаторыя садоўнікі цьвердзяць, што зайцы асабліва любяць абгрызаць фруктовыя дрэўцы, але гэта цьверджаньне ня зусім адпавядае праўдзе, бо зайцы ня толькі грызуць дрэўцы фруктовыя, але і іншыя, якія ім пападаюцца ў месцы іх прабываньня. Аб'яданьне зайцамі дрэўцаў па садох тлумачыцца дужа проста Калі ўжо зайцы не знаходзяць у полі сабе жыўнасьці, як жытняя рунь, па прычыне пакрыцьця поля глыбокім сьнегам, а ў лесе па тэй-жа прычыне ня станець травы і льсьцьцяў, дык зайцы пачынаюць ціснуцца да будынкаў, асабліва да пуняў і стагоў сена, і там шукаюць пажывы ў відзе патрухі з сена. Дык зразумела, што зайцы ў гэтым месцы (ў сваім раёне) пачынаюць і фруктовыя дрэўцы аб'ядаць.

Зайцы псуюць ня толькі маладыя дрэўцы, але псуюць і пладавыя зародкі старога саду. Здараецца гэта тады, калі зіма будзе глыбокасьнежная, і галіны дрэваў будуць нявысока ад сьнегу.

Спосабаў дзеля захаваньня дрэваў ад грызуноў ёсьць шмат. Найлепшым зьяўляецца густая абгародка саду звычайным ці калючым дротам, але, нажаль, гэты спосаб па сваёй дарагавізьне недаступны сярод сялян. Захаваньне дрэўцаў ад зайцоў па вёсках будзе і ў тым, што маладыя дрэўцы абвязваюць саломай ці ельнікам; гэты спосаб ня зусім практычны, бо можна захаваць ад грызуна толькі галамень дрэва, а гальлё можаць падпасьць пад небясьпеку, тады лічы-дрэўца прапала.

Практыкуюцца яшчэ і іншыя спосабы захаваньня дрэваў ад зайцоў. Бяручы адно вядро вады, распускаюць адзін хунт сталярнага клею, адзін хунт крэйды і ўліваюць у гэтую мешаніну паўхунта канаплянага алею. Гэткай мешанінай абмазваюць дрэвы. Другі спосаб — на вядро вады дадаюць сталярнага клею, вапны і невялікую частку нафталіну дзеля паху; трэцяя мешаніна — вада, гліна, вапна і крыха сьмярдзючай смалы Асафэцікі (Ferula Asafoetida), каторая дастаецца ў аптэцы ці аптэчным магазыне нядорага, і чацьвёртая мешаніна — вада, карові жыдкі гной, вапна і сапсованая бараняя ці бычачая кроў.

З усіх названых чатырох мешанін зьяўляецца найлепшай у дзеле захаваньня дрэваў ад зайцоў трэцяя мешаніна з прымешкай асафэцікі; дрэваў, абмазаных гэтай мешанінай, зайцы зусім не чапаюць.

Гэтак сама і чацьвёртая мешаніна зьяўляецца добрай, але затое прывабліваець мышэй каторыя, чуючы кроў, гатовы абгрызаць ніжнюю часьць дрэўца.

Другая мешаніна ня маець добрых вынікаў, бо нафталін, паху каторага зайцы не пераносяць скора выветраваецца; а першая мешаніна ня робіць належнае дзейнасьці, і дрэвы, абмазаныя гэтаю мешанінаю, не заўсёды, але іншым разам зайцамі псуюцца. Абмазка вышэйсказанымі мешанінамі дрэвам ня шкодзіць.

З усяго сказанага відаць, што найлепшым спосабам дзеля захаваньня фруктовых дрэваў ад шкоднікаў, ёсьць мешаніна, у каторую ўмешана асафэціка, але трэба зазначыць, што дзеля мацнейшага ўтрыманьня гэтае абмазкі на дрэвах карысным будзе ў гэту мешаніну дадаваць тую ці іншую часьць сталярскага клею.

Спосаб абмазваньня, як заўсёды пры беленьні дрэваў вапнай, і абмазваюцца толькі самыя сьцёблы ў дзень адлігі.

Дык той, хто маець свой садок, хай папрабуе спрактыкаваць над гэтым сам.

*Янка Тарыкаў.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Вульлі.

(Гл. № 35 „Бел. Дня“).

Робячы вульлі, ня можна ня спыніцца над тым, як іх сьценкі, на якія ўжо падрыхтованы матар'ял, змацаваць паміж сабою. Вот-жа, калі йдзе аб змацаваньні сьценак, то іх можна змацаваць альбо зусім простым спосабам, г. зн. цьвікамі, які спосаб ня надта цешыцца прызнаньнем добрых сталяроў, альбо найляпей, што водзіцца ў добрых сталяроў, змацаваць сьценкі вульля ў паз, альбо ў падвойны фальц, Як робіцца паз, альбо падвойны фальц хіба-ж не зьяўляецца невядомым нават і невялікім сталяром, так што тлумачэньнем гэтага я займацца тут ня буду. Для большай мацнаты можна яшчэ стуліўшы да прыгатаваньня дошкі ў фальц зьбіць цьвікамі.

Па бакох вульля ў сярэдзіне, не ад бакавых сьценак, а ад сьценкі задняе, а найчасьцей пярэдняе ўстаўляюцца адумысныя разьдзяляльныя перагародкі альбо дошкі, якія даюць магчымасьць

паменшыць альбо пабольшыць нутро вульля, гледзячы па велічыні яго сям'і. Калі сям'я павялічыцца і пчолкам мала месца ў тых рамках, якія ёсьць у вульлі, то тады пярэдняя перагародка ў вульлі адсоўваецца, а ў пусты прастор устаўляюцца новыя пустыя рамкі, што дае магчымасьць пчолкам яшчэ болей павялічыць лік сям'і. Гэткім спосабам, як я ўжо казаў, можна перашкодзіць раеньню, бо пчолкі, маючы даволі месца, ня так ахвотна закладаюць новыя матачнікі, з выняткам таго выпадку, калі ў вульлі ёсьць старая ўжо няплодная матка, альбо трутнёўка, якое пчолы стараюцца пазбыцца, што павінен бязумоўна рабіць і пчаляр.

Дно ў вульлі заўсюды павінна рабіцца так, каб яго можна было выймаць. Гэтае вялікае значэньне рухомага дна перш за ўсё добра зразумеў вялікі пчаляр Дадан-Блатт, і дзеля таго вулей яго сыстэмы мае гэткае дно. Яго можна выймаць, пераварочваць на другі бок і ізноў устаўляць. Вот-жа гэткае рухомае дно ў вульлі маець вялікае значэньне, якраз дзеля таго, што пазваляець застасаваць у вульлі ўсе вымогі *гігіены*. Як ведаем, на дно спадаюць зьверху усе адходы пчолак, як і трупы ўжо памёршых пчолак, там робіцца з гэтага цьвіласьць і гнільлё, што можа выклікаць у вульлі розныя хваробы. Дзеля гэтага, калі дно ў вульлі нярухомае, то вулей проста немагчыма добра вычысьціць, бо заўсёды яшчэ ў пазох астанецца пэўная доза заразьлівага гнільля. Калі-ж вулей з дном рухомым, то гэта даець нам магчымасьць збавіцца ад заразы ў вульлі, вычысьціўшы яго добра тады, калі нам гэта спадабаецца ; дзеля гэтага трэба толькі выняць дно, добра яго ашпарыць кіпнем і добра вышараваць з двух бакоў. Вулей з-пад дна гэтак сама трэба добра выцерці; па ўсёй гэтай апэрацыі дно ўстаўляецца назад. А ў вульлі з дном нярухомым гэтае апэрацыі ня можна так лёгка правясьці, бо мы і пчолак падразьнім і не ачысьцім вульля, як трэба.

Праходы для пчолак, альбо ляткі робяцца ў ніжняй часьці вульля і ў дадатку ў галавах. Ляткі гэтыя робяцца так, каб іх можна было пабольшыць, альбо пам ншыць, пры помачы адумысных засавак, якія робяцца з вонкавага боку лятка і якія прымацоўваюцца гэтак, што заходзяць і лёгка пасоўваюцца ў пазох.

Проста лятка прымацоўваецца дошчачка, якая павінна мець маленькі паклон да зямлі.

Калі вульлі стаяць і зімуюць на вольным паветры, то неабходным зьяўляецца тое, каб гэтыя вульлі мелі падвойныя сьценкі, што амаль не заўсёды практыкуецца пры рабеньні вульлёў, і што ніколі ня шкодзіць. Пустата, якая паўстаець паміж двумя сьценкамі, альбо зусім нічым не запіхаецца і тады там знаходзіцца слой цёплага паветра, якое і бароніць пчолак ад халадоў, альбо, што спатыкаецца найболей, гэтая пустата запіхаецца кастрыцаю, альбо саломаю, ці мякінаю, што яшчэ ляпей саграваець вулей і забясьпечваець яго ад халадоў.

Вульлі робяцца альбо яловыя, альбо сасновыя. Дошкі павінны быць на сьценкі вульля ў адну цалю таўшчынёю, г. зв. цалёўкі; на дно павінны ісьці паўтарачкі, гэтак сама і на пакрыўкі альбо на стрэшкі, а гэта ў той час, калі на стрэшкі няма гонтаў, бо найляпей, разумеецца, рабіць стрэшкі з гонтаў ці з саломы мацнейшыя, чымсьці з дошчак і ляпей забясьпечваць вулей ад непагоды.

Дошкі, перад тым, як пойдуць на рабеньне вульля, павінны быць добра прасушаны на вольным паветры пад голым небам. Найляпей, калі мы думаем рабіць вульлі зімою, пачаць сушыць дошкі з вясны. Дзеля гэтага бяром патрэбную колькасьць дошчак, укладваем іх на вольным паветры ў сьціртьі, адгароджваючы кожную дошку адну ад другое, пры помачы паленцаў, бо калі дошкі адна да аднае будуць моцна прыставаць, то яны добра ня высахнуць і паморшчацца, бо перш за ўсё ў іх высагнуць бакі, а сярэдзіна застанецца сырою, гэта можа зморшчыць дошку да таго, што яна будзе мець выгляд мелкіх начовак і зусім дзеля гэтага ня будзе надавацца да рабеньня. Гэтыя дошкі, якія сохнуць на двары, трэба ўвосень абавязкова ў сухую пагоду, прыбраць і зложыць дзе-небудзь у сухую будыніну, дзе яны могуць знаходзіцца аж датуль, пакуль ня пойдуць у работу.

Пры рабленьні, ці пры купляньні вульля, пчаляр павінен заўсёды памятаваць аб тым, каб вулей быў: 1) танным, 2) моцным, 3) пры будове ня надта трудным, 4) лёгкім, 5) цёплым, 6) адпаведняе велічыні, 7) прыдатным для пчолак, для пчаляра і для кліматычных вымогаў.

Невялікая цана вульля маець вагу якраз для нашых пчаляроў, з якіх некаторыя проста ня маюць матар'яльнай магчымасьці рабіць, альбо купляць даражэйшыя вульлі, па-другое дабрыня вульля *зусім не залежыць ад яго цаны*, а *ад яго добрага прыстасаваньня*, па-трэцяе, пчаляр будзе мець большы даход з свае пасекі, трацячы якнайменш на вульлі.

Мацната вульля маець гэтак сама *вялікае значэньне* для пчаляра. Бо як-жа ён можа пацярпець у выпадку, калі вулей спадзе, ці паваліцца, альбо ў яго хто-небудзь моцна стукнець.

Ня меншую ролю гэтая мацната адыграваець і пры перавозцы вульлёў з месца на месца, бо вулей нямоцны можа альбо разьбіцца, альбо моцна папсавацца, ад чаго могуць пацярпець пчолкі. Самыя моцныя вульлі можна рабіць з зусім здаровага дзерава, альбо з саломы, якая потым пакрываецца покастам і хварбуецца.

Нятрудная зложаннасьць вульля маець гэтак сама вялікую вагу, бо тады ён і таньнейшы і зрабіць яго можна самому, прылажыўшы, разумеецца, да гэтага трошкі руплівасьці.

Лёгкім вулей павінен быць дзеля таго, каб яго можна было ляпей пераносіць з месца на месца, бо на пчальніку вядома-ж часта прыходзіцца гэта рабіць, прыкладам, падчас штучнага

---

Хто хоча купіць якое-небудзь гаспадарчае прыладзьдзе ці машыну найлепшае якасьці і найтаньней, той няхай зварочваецца да рэдакцыі і мы заўсёды бясплатна парадзім, дзе можна купіць якую машыну. Маючы на мэце памагчы нашаму сялянству, мы запрасілі спэцыялістага па гаспадарчых машынах і ўмовіліся з некаторымі фірмамі, што яны будуць для таго, хто зьвернецца праз нас, прадаваць машыны крыху таньней.

раеньня, пры падвозе пчол на месца багатае меданоснымі расьлінамі, альбо пры пераносе пчолак у амшаньнік на зімоўку, дзеля чаго, разумеецца, вулей павінен быць ня цяжкім.

Добры вулей павінен быць да таго цёплым, каб тая, што жыве ў ім, сям'я не паддавалася шкодным зьменам тэмпэратуры г. значыць, каб у вульлі заўсёды магла ўтрымлівацца аднолькавая тэмпэратура, а іменна летам падчас чарвеньня—35°, а ўзімку каля 10° Ц.

У гэтым выпадку вулей будзе адказваць такім вымогам тады, калі яго сьценкі будуць адпаведнай таўшчыні і калі ён будзе зроблены з такога матар'ялу, што абмен паветра іначай ня будзе магчымым, як толькі цераз ляток. Такой патрэбе болей за ўсё адказваюць вульлі, робленыя з такога матар'ялу, у якім найляпей утрымліваецца паветра і цераз які ня так лёгка праходзіць холад; дзеля гэтага першае месца тут займаюць вульлі, робленыя з саломы, альбо з мяккага дзерава.

Вулей павінен быць адпаведнай велічыні, дзеля нармальнага разьвіцьця ўсяе дзейнасьці сям'і. Бо калі вулей будзе замалы, то добрая матка ў прыдатны час можа запоўніць усе чарачкі чарвою, а для пчолак зусім ня знойдзецца месца для складаньня мёду на зіму, так што яны прымушаны будуць некі час сядзець без работы, зьбіраючыся і седзячы каля лятка, пакуль з таго вульля ня вылеціць рой. Дзеля гэтай прычыны, пчолкі ў малых вульлёх вельмі скорыя да раеньня і мала заўсёды зьбіраюць мёду. Вялікі разьмер вульля не перашкаджаець гэтак пчолкам, як разьмер малы, дзеля таго, што пчолкі ў такім вульлі ня маюць перашкодаў да шырокага разьвіцьця свае дзейнасьці, аднак-жа трэба зацеміць, што калі абыймо гэткага вульля ня будзе паменшана на зіму, то пчолкам вельмі блага будзе ў ім зімаваць, дый мёду яны падчас зімы вельмі многа зьядуць і могуць, не сагрэўшы вульля, згінуць. З гэтага вынікаець, што ўлетку абыймо вульля павінна быць такой велічыні, каб пчолкі ў ім маглі свабодна працаваць і разьвівацца, а ўзімку такое велічыні, каб зімуючыя клубком пчолкі, маглі лёгка падтрымліваць у такім абыйме тэмпэратуру.

Вулей павінен быць прыдатным для пчолак і для пчаляра, бо калі-б хто пры рабеньні вульлёў меў-бы толькі на воку выгады пчаляра, то ён зрабіў-бы вялікую абмылку, на першым месцы ў гэтым выпадку павінны быць выгады для пчолак пры рабленьні розных сыстэмаў вульлёў, аднак-жа ў такі спосаб, каб мы ўсё такі маглі панаваць над імі.

На гэтым усім я ўжо закончу сваё агульнае апісаньне вульлёў і іх значэньне для пчаляра і для пчолак, пры якім апісаньні я ня меў на воку якога-небудзь вульля, якое-небудзь адное сыстэмы. Я хацеў толькі ўва ўсіх сваіх папярэдніх артыкулах выясьніць значэньне і выгаду разборнага вульля. Кожны пчаляр можа сабе выбраць вульлі той сыстэмы, якая яму найлепей спадабаецца, памятаючы аднак-жа дабра аб тым, што найляпей мець на пчальніку вульлі якое-небудзь аднолькавае сыстэмы з аднолькавым разьмерам рамак.

У далейшых сваіх артыкулах я займуся апісаньнем вульлёў тых сыстэмаў, якія ў нас найболей і найчасьцей спатыкаюцца на Беларусі.

*Пчаляр.*

### Што трэба зрабіць, каб у цяляці не расьлі рогі?

Усім ведама, што рогі ў кароў—гэта свайго роду няпрыемнасьць у сэнсе небясьпекі ад прабоджаньня ня толькі якой-колечы жывёлы, але і чалавека, а найгоршая бяда з дзяцьмі, хоць ты ня пушчай на вуліцу іх!

Вось, маючы ўсё гэта па ўвазе, зьяўляецца пытаньне: Нашто патрэбна, каб у каровы былі рогі? На гэтае пытаньне ёсьцека адзіны толькі і зусім няўдалы адказ, гэта тое, што калі-б прышлося куды вясьці карову, дык як-жа яе вясьці, калі ў яе няма рагоў? Аж сьмех з гэткага адказу.

Каня мы водзім на вобруці, так сама і карову лёгка можам прывучыць хадзіць на вобруці, а тым больш, калі ў каровы ня будзе рагоў.

Прызнаючы важнасьць гэтага пытаньня, людзі знайшлі спосаб, як зьнішчыць зародкі рог у цялят у першыя дні нараджаньня іх.

Даўно ведама ўсім, што бязрогія каровы больш спакойныя і такія лабатыя каровы ня шкодзяць адна адной на пасьбе пад'ядаць, што ўплываець на малочнасьць тэй ці іншай каровы.

Практычна зьнішчэньне рагоў у самым зародку робіцца так: у толькі што народжаных цялят выстрыгаецца поўсьць на тым месцы, дзе павінны быць рогі і прасторнасьць гэтага месца велічынёю ў паўзалатоўкі прыпальваецца ўціраньнем азотнай кісьлаты, серкаю ці кіслатою насычанай рошчынаю едкага калія.

Аднакротнага прыпальваньня будзе даволі: зьявіцца струп, каторы потым у сваю пару адваліцца, і рогі ўжо ніколі ня вырастуць. Гэтакі спосаб вельмі распаўсюджаны ў Амэрыцы,

*Я. Т.*

---

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Новая беларуская часопісь.

У хуткім часе мае ў Вільні выходзіць новая беларуская часопісь „Покліч". Часопісь будзе выдаваць эс-эр Мамонька.

### Сход Беларускага Студэнскага Саюзу.

20 лістапада г. г. адбыўся гадавы сход Беларускага Студэнскага Саюзу. На сходзе быў выбраны новы ўрад Саюзу ў гэткім складзе: старшыня Куніцкі, віцэ-старшыня Гагалінскі, сакратар Ст. Станкевіч, скарбнік Амельяновіч і сябра ўраду Ермаковіч. Паміж іншым, сход пастанавіў, каб Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні ўвайшоў у А. Б. С. А. і аб тым, каб пры выбарах беларусы стварылі адзіны нацыянальны сьпісак.

---

## З жыцьця Наваградчыны.

### Даклад у Беларускай Наваградзкай гімназіі.

20 лістапада ў Наваградзкай Беларускай Гімназіі інжынер Малевіч прачытаў даклад аб задачах беларускай інтэлігэнцыі, які прысутнымі быў выслуханы з вялікай цікаўнасьцю. У сувязі з дакладам узяў голас рэдактар гр. Ф. Умястоўскі, які дапаўняючы даклад пана Малевіча, зьвярнуў увагу на адну з найвялікшых задач

інтэлігэнцыі: быць сьветачам і важаком сваго народу. — Задачай інтэлігэнцыі, — казаў гр. Умястоўскі, — ёсьць падняць народныя масы да тэй роўні, на якой знаходзіцца яна сама. Інтэлігэнцыя, якая ня мае адвагі сказаць сваёму народу ўсяе праўды, як-бы горкай яна ні была, інтэлігэнцыя, якая баіцца накіраваць свой народ на правідловы шлях, бачачы, і разумеючы, што народ блудзіць, перастала быць сьветачам народу і заместа таго, каб быць важаком, робіцца прыхвасьнем свайго народу, і разам з ім прападае.

### Няўдаўшыся сход Рагулі.

На 21 лістапада пасол Рагуля, прадстаўнік Сялянскага Саюзу, склікаў у Наваградку, у салі кінаматографу сход, на якім меўся зрабіць даклад.

Ня гледзячы на тое, што ў гэты дзень у Наваградку быў кірмаш і народу зьехалася шмат з усіх бакоў Наваградчыны, сход не адбыўся, дзеля аднэй простай прычыны: на сход ніхто з сялян не зьявіўся. Пасол Рагуля пацяшае сябе, што вінавата тутака... пагода. Можа і пагода?! Бо сапраўды сонца ярка блішчала на небе, пушысты сьнег скрыпеў пад палазамі, нейкая бадзёрнасьць адчувалася ў натуры і ў сэрцы кожнага чалавека. Каму-ж ахвота пры гэткай пагодзе ісьці на сход, каб там заместа сонца яснага ўбачыць твар жывога палітычнага мраца, якім зьяўляецца пасол Рагуля.

# Апошнія навіны.

**Нямеччына.** Пачаліся польска-нямецкія перагаворы аб заключэньні таргоВага дагавору. Як падаюць афіцыяльныя дзейнікі, заключэньне таргоВага дагавору не сустракае вялікіх труднасьцяў. Зусім магчыма, што ў хуткім часе дагавор будзе заключаны.

**Турцыя.** На цэлым абшары Турцыі адбыліся арышты камуністых.

**С. С. С. Р.** Саветы бяруць афіцыяльны удзел у конфэрэнцыі разбраеньня, якую склікае Ліга Народаў у Жэнэве.

У склад савецкай дэлегацыі, якая ўжо выехала ў Жэнэву, уваходзяць Літвінаў, Луначарскі і іншыя. Савецкая дэлегацыя мае рабіць стараньні ў Жэнэве, каб наладзіць зносіны з Англіяй.

**Польшча.** Памёр вялікі польскі пісьменьнік Пшыбышэўскі.

У Вільню прыехаў 23 лістапада прэм'ер міністраў марш. Язэп Пілсудскі, міністар заграничных справаў Залескі, начальнік усходняга аддзелу міністэрства заграничных справаў Голувко, польскія паслы ў Расеі Патэк і ў Рызе Лукасевіч і інш. Адбываліся важныя нарады аб літоўскай справе.

### Увага для Хаўрусоў Б. Р. Н. П.

Прэзыдыум Вык. Кам. Бел. Нар. Партыі паведамляе старшынь Хаўрусаў, Б. Р. Н. П., каб прысылаючы пратаколы, аб залажэньні хаўрусу падавалі адначасна паштовы адрэс, па якім трэба пасылаць корэспондэнцыю на імя Хаўрусу.

## ПІСЬМЫ Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Не адмоўце памясьціць у Вашай паважанай газэце пісьмо такога зьместу:

Беларускі Студэнскі
Саюз у Вільні. Вільня, 15.XI. 1927 г.

Да Ураду Братняе Помачы Польскае Студэнскае Моладзі У. С. Б. у Вільні.

Дапаўняючы нашу вусную заяву, Урад Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні падае да ведама, што студэнты беларусы зьяўляюцца сябрамі Братняе Помачы Польскае Студэнскае Моладзі і карыстаюцца з установаў і матар'яльнае дапамогі гэнае арганізацыі. У адносінах Братняе Помачы Польскае Ст. Моладзі да студэнтаў беларусаў мы не дагледзілі ніякае розьніцы дзеля нацыянальных прычын.

З сяброўскім прывітаньнем

Старшыня (—) Ад. Зянюк.
За Сэкрэтара (—) Яз. Жук.

**АД РЭДАКЦЫІ.** Пісьмо гэнае, выкліканае патрэбай асьведамленьня беларускага грамадзянства, што ў рамках агульнае студенскае арганізацыі „Братняе Помачы“ месьцяцца студэнты беларусы, якія таксама, як і студэнты палякі, карыстаюцца з усіх відаў матар'яльнае дапамогі, якую аказвае гэная арганізацыя.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Мох у Празе.** „Бел. Дзень“ і „Бел. Культуру“ вышлем. У „Бел. Культуры“ сельска-гаспадарчых артыкулаў ня друкуем. Пасылаем гонорар. Пішэце аб жыцьці і настроях беларускае эміграцыі у Чэхаславаччыне.

**Я. Сабыніч.** Адказ знойдзеце ў артыкулах „Бел. Дня“ аб нашых адносінах да іншых партыяў.

**Гэля Беларуска.** Корэспондэнцыі зьмяшчаем, просім пісаць далей.

**Др—іч.** Ваш абразок „З праўдзівага жыцьця Сьцёпкі“ і корэспондэнцыя да друку не надаюцца.

**А. Бацян.** Ваша пробная, як Вы кажаце, праца, пакуль што, да друку не падойдзе. Чакаем больш апрацованых твораў.

**А. Семашкевіч.** — Старш. Хаўрусу Бел. Радык. Нар. Партыі ў в. Боркаўшчыне. Падайце свой дакладны паштовы адрэс.



Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.